Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 660.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Аўторак, 18 жніўня 1998 г. № 85 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Наглядная агітацыя для масквічоў

**Беларускае кіраўніцтва збіраецца адкрыць у Маскве пастаянную выставу дасягненняў народнай гаспадаркі. Выставу плануюць адкрыць у павільёнах былой ВДНГ, якая цяпер завецца Усерасійскім выставачным цэнтрам.**

У савецкія часы кожная рэспубліка мела на гэтай выставе свой павільён, дзе дэманстраваліся тавары, многія з якіх у рэальным жыцці набыць было немагчыма. Савецкі Саюз распаўся, і ў кіраўніцтва новых незалежных дзяржаваў з'явіліся больш важныя справы, чым дэманстрацыя міфічных дасягненняў. Выратаваць маскоўскую ВДНГ і запоўніць яе павільёны ўзяўся Лукашэнка. Аднойчы ён ужо спрабаваў гэта зрабіць. Да 5-гадовага юбілею СНД у Маскве праводзілася выстава прамысловай прадукцыі, дзе 75% плошчаў былой ВДНГ займала экспазіцыя з Беларусі.

У міністэрстве знешнеэканамічных сувязяў, якое займаецца арганізацыяй гэтай выставы, нам паведамілі, што цяпер разглядаюцца канкрэтныя пытанні, звязаныя з арэндай маскоўскіх павільёнаў. Хаця каштаваць такая наглядная агітацыя будзе нямала, але можна не сумнявацца, што Рыгоравіч за цаной не пастаіць. Так што неўзабаве маскоўская публіка на ўласныя вочы зможа пабачыць, чаго дасягнула Беларусь пад кіраўніцтвам «народнага прэзідэнта».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Скварцоў у Мінску

Новапрызначаны кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Уладзімір Скварцоў у мінулую нядзелю вярнуўся з Германіі ў Мінск. Былы дарадца беларускай амбасады ў Боне яшчэ не атрымаў распараджэння кіраўніка адміністрацыі аб прыёме на працу. Гэтае пытанне вырашыцца ў бліжэйшы час, а пакуль прэс-сакратар займаецца «растаможкай» аўтамабіля.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## СНД засталося без Беразоўскага

Выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі праводзіць адпачынак у Францыі. Пра гэта нам паведамілі ў штаб-кватэры садружнасці. Тым часам 24 жніўня ў мінскім офісе СНД зноў збярэцца рабочая група, якая працягне дэбаты па праблеме рэфармавання СНД. У штаб-кватэры паведамілі, што ўсе апаратчыкі засталіся на ранейшых месцах працы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Мяжа з Літвой: працэс ідзе

**Фінскія эксперты пагранічнай аховы сцвярджаюць, што межы Літвы ахоўваюцца надзейна. Але, улічваючы, што мяжа гэтай дзяржавы неўзабаве стане мяжой ЕС, да яе аховы будуць прад'яўляцца дадатковыя патрабаванні.**

Як заявіў на прэс-канферэнцыі ў Вільні адзін з экспертаў — фінскі генерал-лейтэнант Маці Анціо, ён асабіста не знайшоў вялікіх недахопаў у сістэме бяспекі на літоўска-беларускай мяжы, але адзначыў неабходнасць паскорыць працэс яе дэмаркацыі.

650-кіламетровую пагранічную паласу Літва і Беларусь дэмаркуюць, падзяліўшы пароўну. Літва ўжо дэмаркавала 230 кіламетраў і спадзяецца да канца гэтага года завяршыць працу. Беларусь жа дэмаркуе свой участак мяжы шасцікіламетровымі адрэзкамі, але робіць гэта несістэматычна з-за недахопу сродкаў.

*BNS-БелаПАН*



## Драздын падзеляць?

**Як паведамілі нам у прэс-службе міністэрства замежных справаў, прэзідэнцкую рэзідэнцыю «Драздны» плануецца падзяліць на дзве часткі. У Драздах-1 застанецца прэзідэнт Лукашэнка, а Драздны-2 аддадуць дыпламатам.**

Аднак пакуль не вядома, дзе пройдзе мяжа. Намеснік міністра замежных справаў Уладзімір Герасімовіч сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што *«правесці такую лінію нялёгка, бо трэба вызначыць зону бяспекі прэзідэнта»*. Уладзімір Герасімовіч кіруе спецыяльнай камісіяй па вырашэнні канфлікту вакол Драздоў, але з панядзелка ён пайшоў у адпачынак, таму атрымаць іншыя падрабязнасці нам не ўдалося.

А што думаюць дыпламаты? У амерыканскай амбасадзе нам паведамілі, што нічога не ведаюць пра падзел Драздоў, а пазіцыя ЗША застаецца ранейшай. Па нашых звестках, беларускія ўлады не збіраюцца аднаўляць разбураную агароджу вакол амерыканскай рэзідэнцыі ў Драздах і, больш таго, забаранілі дыпламатам уваход на сваю тэрыторыю.

Ведамства Антановіча адмаўляецца рассакрэціць змест пісьма ад кіраўніцтва Еўрапейскага Саюза і адказ на яго беларускага боку. Гэтыя дакументы змяшчаюць прапановы па ўрэгуляванні дыпламатычнага крызісу, выкліканага канфліктам вакол Драздоў.

Аднак апошнія падзеі сведчаць пра тое, што беларускія ўлады не спяшаюцца выконваць міжнародныя дамоўленасці, а гэта яшчэ адзін крок да пашырэння міжнароднай самаізаляцыі. Нагадаем, што 4 жніўня адбылося паседжанне палітkамітэта *NATO*, на якім разглядалася сітуацыя ў Беларусі, звязаная з высяленнем замежных дыпламатаў з іх рэзідэнцыяў. Натаўцы абмяркоўваюць шэраг мераў у адказ. Прапануецца адправіць у Мінск беларускага пасла ў Бельгіі і кіраўніка пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі ў *NATO* Уладзіміра Лабунова, а таксама спыніць удзел нашай краіны ў праграме «Партнёрства дзеля міру». Натуральна, што візіт Генеральнага сакратара *NATO* Хав'ера Саланы ў Мінск, які ў беларускім МЗС абяцалі гэтым летам, зноў адкладваецца на няпэўны тэрмін.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Хадыка і Шарамет зноў перад судом

*Але на гэты раз — у якасці істцоў*

*«Сёння ахвярамі палітычных злоўжыванняў улады з'яўляюцца сотні грамадзян,* — заявіў вядомы адвакат Гары Паганяйла, — *і няма гарантыі, што пры абвастрэнні сітуацыі ў краіне такіх ахвяраў не будуць многія тысячы».*

На паседжанні калегіі Вярхоўнага суда Г.Паганяйла прадстаўляў інтарэсы Беларускай асацыяцыі вязняў лукашэнкаўскага рэжыму, якая звярнулася ў вышэйшую судовую інстанцыю са скаргай на міністэрства юстыцыі наконт таго, што мінюст адмовіўся зарэгістраваць асацыяцыю.

Асноўная прычына адмовы наступная: *«мэты, задачы і метады дзейнасці аб'яднання супярэчаць раздзелу другому Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь («Асоба, грамадства, дзяржава»)»*. У пацвярджанне прыводзіцца шэраг палажэнняў з гэтага раздзела, дзе гаворыцца, якімі свабоднымі мы (грамадзяне Беларусі) з'яўляемся і як дзяржава ахоўвае нашыя правы. *«Акрамя таго,* — сцвярджае міністэрства юстыцыі, — *Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь не прадугледжана адказнасць за палітычныя погляды і палітычную дзейнасць»*. Зыходзячы з усяго гэтага, мінюст робіць досыць дзіўную выснову: *«нельга стварыць аб'яднанне палітычных вязняў, калі такіх наогул няма»*.

Калі кіравацца такой логікай, дык трэба, як мінімум, разагнаць усе праваабарончыя арганізацыі.



*Рыгоравіч, Шарамет з Хадыкам хочуць прысвоіць тваё імя!*

### Мінюст супраць асацыяцыі

У Вярхоўным судзе прысутнічалі заснавальнікі асацыяцыі — у прыватнасці, вядомыя палітычныя вязні тэлежурналіст Павел Шарамет і паэт Славамір Адамовіч. Працэс праходзіў на беларускай мове, якою і суддзя, і пракурор валодаюць добра.

Натуральна, людзі, якія самі па поўніцы сербанулі палітычных рэпрэсіяў, ніяк не маглі пагадзіцца з тым, што гэтых самых рэпрэсіяў у нас нібыта няма. Юрый Хадыка, намеснік старшыні БНФ і адзін з першых палітвязняў, адзначыў на судзе: *«Сапраўднай прычынаю адмовы з'яўляецца назва арганізацыі. Таму трэба вызначыць, ці ёсць тут лукашэнкаўскі рэжым, ці ці займаецца ён пераследам сваіх палітычных праціўнікаў»*. Далей Ю.Хадыка па-прафесарску грунтоўна даказаў, што адказы на гэтыя пытанні могуць быць толькі сцвярджальнымі. *«Палітычны пераслед пачаўся з красавіка 95-га года, калі былі збітыя і выкінутыя з залы дэпутаты Вярхоўнага Савета XII склікання»*, — нагадаў Хадыка і прывёў некалькі яскравых прыкладаў: *«Славамір Адамовіч 10 месяцаў сядзеў у турме КДБ — тое, што чалавек напісаў верш, спрабавалі прыраўняць да цяжкага крымінальнага злачынства. А збіццё моладзі, якая 2 красавіка мінулага года спрабавала падысці да расійскай амбасады, — як гэта кваліфікаваць інакш, чым палітычны пераслед?»*

Гары Паганяйла прывёў шэраг цытатаў з абвінавальнага заключэння па справе свайго былога падабароннага Паўла Шарамета. *«Ідэя таго, што Павел здзейсніў пераход мяжы «з мэтаю дыскрэдытацыі органаў улады і дзяржаўнага кіравання», чырвонаю ніткаю праходзіць праз увесь дакумент, што сведчыць пра палітычны характар гэтага абвінавачвання»*, — рэзюмаваў адвакат.

*(Працяг на стар. 2)*

### *Раз'езды*

**У чацвер прэзідэнт Лукашэнка ўручыць дзяржаўныя ўзнагароды 52-м прадстаўнікам розных сфераў дзейнасці. А ў пятніцу кіраўнік дзяржавы збіраецца паехаць у Брэсцкую вобласць. Мэта ўсё тая ж — бітва за ўраджай.**

### *Войска*

**Сёлета на вучобу ў розныя ваенныя акадэміі Расійскай Федэрацыі плануецца адправіць 48 беларускіх афіцэраў. У прыватнасці, 14 афіцэраў стануць слухачамі Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага, пяцёра — Ваенна-медыцынскай акадэміі, двое — Ваеннай акадэміі хімічнай абароны.**

### *Банкроты*

**Амаль 30% прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці па выніках другога паўгоддзя — стратныя. Такія звесткі паведаміла мясцовае ўпраўленне статыстыкі. Страты гэтых прадпрыемстваў склалі 409 мільярдаў рублёў.**

### *Зарплата*

**У палове калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці чатырохмесячная запазычанасць па зарплаце. Яе агульная сума складае 107 мільярдаў рублёў.**

### *Прафсаюзы*

**З першага верасня Беларускі кангрэс свабодных прафсаюзаў адкрывае свае прадстаўніцтва ў Гродне. Адначасова гэта будзе зроблена ў Брэсце і Гомелі. Усяго плануецца, што такія прадстаўніцтвы з'явяцца ў 22 гарадах краіны.**

### *Цэны*

**На мінскіх харчовых рынках зафіксаваны новы цэнавы скачок. За мінулы тыдзень кошт, напрыклад, агуркоў вырас у сярэднім на 59 працэнтаў, мукі — на 16, апельсінаў — на 12, макаронных вырабаў — на 7. Падаражэлі практычна ўсе прадукты.**

## Гарэлцы з Клімавічаў 140 гадоў

**140-гадовы юбілей адзначае гэтымі днямі Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод.**

Ён быў заснаваны памешчыкам Карлам Камінскім і першапачаткова быў разлічаны на выраб 100 вёдраў гарэлкі ў месяц. Але зараз аб'ёмы вытворчасці непараўнальныя: Клімавіцкі завод цяпер выпускае 26 відаў алкагольных напояў, яшчэ 4 з'явіцца ў хуткім часе.

**Іван ЗАСАДА**

## За ўдзел у абарончай вайне

**Шасцёра жыхароў Брэсцкай вобласці ўдастоены ўрадавых узнагародаў Рэспублікі Польшча за ўдзел у абарончай вайне 1939 года.**

Пасля падпісання Рыжскай дамовы 1921 года Брэст-Літоўск і заходняя частка БССР амаль на 20 гадоў адышлі да Польшчы, таму Другая сусветная вайна закранула Брэстчыну значна раней, чым астатнюю Беларусь: нямецкія войскі штурмавалі Брэст-Літоўскую крэпасць яшчэ ў 1939 годзе.

У гонар Дня Войска Польскага ўзнагароды «За ўдзел у абарончай вайне 1939 года» атрымалі Міхаіл Карпей, Мікалай Клімушка, Сямён Дарашук, Уладзімір Калагрыў, Сцяпан Хоміч і Васіль Жаўтковіч. На ўрачыстай цырымоніі ўручэння, якая адбылася ў абласным тэатры драмы і музыкі, прысутнічалі генеральны консул РП у Брэсце Томаш Кліманьскі, а таксама аташэ па ваенных пытаннях польскага пасольства Мацей Валошык. Акрамя таго, польскія ўлады хадайнічаюць аб устаноўцы мемарыяльнай дошкі на тэрыторыі комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» у гонар воінаў польскага войска, якія абаранялі цытадэль у 1939 годзе.

*БелаПАН*

## Севярынцу «шыюць» новую справу

**Пракуратура Савецкага раёна Мінска працягвае шукаць доказы віны лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца. У мінулы чацвер следчы пракуратуры Ігар Голубеў дапытаў па «справе Севярынца» аднаго з актывістаў Маладога Фронту 17-гадовага Цімоха Дранчука.**

Цімох Дранчук праходзіць па справе ў якасці сведкі, але на допыт ён быў даставілены ў наручніках, у суправаджэнні нарада міліцыі. Як паведаміў Цімох, ён не хацеў ісці на допыт без бацькоў (на гэта, дарэчы, ён мае права — як непаўналетні), але міліцыянты паваліі яго на падлогу, надзелі наручнікі і адвезлі ў пракуратуру.

Па словах Цімоха, следчага ў асноўным цікавілі розныя аспекты выдання бюлетэня Маладога Фронту — «Маладзёвага веснік», рэдактарам якога быў Павел Севярынец. На думку следства, бюлетэнь распальвае ў грамадстве міжнацыянальную варожасць, што следчы Ігар Голубеў і спрабуе цяпер даказаць.

Нагадаем, што супраць Паўла Севярынца ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле «злоснае хуліганства», якое ён нібыта ўчыніў 2 красавіка гэтага года падчас несанкцыяванага мітынгу і шэсця.

Як паведаміў Цімох Дранчук, падчас допыту следчы сказаў, што бліжэйшым часам справа Севярынца можа быць перададзеная ў КДБ. Цімох лічыць, што доказаў віны Паўла Севярынца следства знайсці не можа і таму цяпер імкнецца знайсці любую падставу, каб толькі абвінаваціць лідэра Маладога Фронту.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Міліцыя дбае пра ўраджай

**У Гродзенскай вобласці пачалі дзейнічаць «мабільныя атрады для барацьбы з раскрадальнікамі дзяржаўнай маёмасці». Іх складаюць амонаўцы і супрацоўнікі міліцыі.**

Атрады створаны толькі ў памежных з Літвой раёнах. Раней меркавіта адтуль наведваліся злодзеі, якія кралі парсюкоў, бычкоў, любую сельгаспрадукцыю і нават трактары, каб кантрабандным чынам перапраўляць у Літву.

На час жніва ў вобласці ажыццяўляецца таксама міліцэйская аперацыя «Аграрнік-98», мэта якой — сіламі міліцыі зменшыць страты на жніве. Напэўна, амерыканскай паліцыі такое і не снілася. Дарэчы, кіруе аперацыяй начальнік службы крымінальнай(!) міліцыі палкоўнік В.Жарабіла. Што зробіш, калі задачу паставіў сам прэзідэнт.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# Это не дорога. Это – тупик

*Было бы легче, если бы нами правили колонизаторы*

### По сто тысяч на бедность

Об этом писать невыносимо скучно. Но что делать, если жизнь наша скучная и серая, как штаны пожарника. Вот опять министерство статистики выдало показатель июльской инфляции — 2,8%. Это значит, что помимо налогов мы дополнительно оплачиваем мудрость нашего руководства тремя тысячами рублей из каждых заработанных ста тысяч. В итоге средняя зарплата становится легче по меньшей мере на сотню тысяч. Хотя это нынче и не деньги, но почему им, нашим кормчим, разве они так бедствуют, как допустим, рабочие витебского «Монолита»?

Разве инфляция растет на дереве, а не является делом рук дураков? В других, например, странах в летние месяцы, в связи с нарастающим товарным потоком овощей и фруктов, потребительские цены или замедляют свой ход, или даже в целом падают. Например, в Латвии в июле потребительская «корзинка» подешевела на 0,8%, на Украине цены на продтовары снизились на 2,3%, в России в июне цены на ширпотреб увеличились всего на 0,1%.

Примерно такая же картина во всем СНГ — за исключением прифронтового Таджикистана и Армении. А с кем воюет наше руководство? С нами?!

Столь же независимо от сезонных колебаний у нас растет задолженность по зарплате. В основном за счет невыплат ее в сельском хозяйстве. А правительственные газеты тем временем пестрят заголовками типа «Погоны пахнут хлебом», «Первая заповедь — сдать хлеб государству!» и т.д.

А почему «сдать», почему обязательно государству? Почему не продать любому, кто хорошо заплатит?

Говорят — нельзя, пострадает продовольственная безопасность страны. Да вы, товарищи, просто понятия не имеете об этой самой безопасности.

### Простая арифметика

Сопоставив, например, эффективность сельского хозяйства в Англии и в РБ, приходишь к выводу, что для прокормления нашей страны достаточно 120.000 английских фермеров, которые могли бы освободить от «героического труда» 1.000.000 белорусских колхозников, миллионы «соточников» и дачников, а также шефов сельского хозяйства из когорты интеллигентов и пролетариев. При этом они гораздо большее количество продукции произвели бы на 1/10 части тех сельхозугодий, которые эксплуатируют колхозы. Иными словами, Беларусь могла бы прокормить по меньшей мере 100 миллионов человек.

И, можете поверить, без всякой демагогии насчет «особого режима труда и высочайшей ответственности» в период уборки, «продовольственной безопасности» и причитаний по поводу того, что «хлеб всему голова». При этом не было бы ни отравленной химикатами земли, ни изуродованного мелиорацией Полесья, ни вымирающих в прямом и переносном смысле витебских деревень, ни превращения страны в один большой колхоз. Не нужно было бы налаживать производство «условно чистой продукции» в Чернобыльской зоне, обрекая на медленное умирание тамошних хлеборобов и дозируя отраву для остального населения. А если подумать, то и нужду в Чернобыле, а значит и беду, мы придумали и сотворили для себя сами. Ведь для организации производства на 1/10 угодий не потребовалось бы такая «электрификация всей страны».

### Началось как уголовное преступление

Живем по-прежнему «по-ленински». Государство не сегодня-завтра установит продразверстку для сельских подворий, потому что колхозная барщина реальных плодов приносит все меньше и меньше. Но в нынешнем своем качестве и частный сектор ежечасно теряет в своей способности к самоэксплуатации по той причине, что на смену старому крестьянству, работавшему если не за деньги, то в силу передававшейся от поколения к поколению привычки делать свое дело хорошо, приходят люди с «вялой» трудовой моралью, которые будут трудиться, в прямом смысле, только под палкой. А что это за работа — всякий знает.

Много говорят и пишут об увеличении доли подсобных хозяйств населения в общем объеме производства, но ведь этот рост относителен, он происходит благодаря сокращению производства в целом. А в абсолютном отношении после некоторого всплеска в начале 90-х годов последовал спад частного сектора по все более крутой траектории. Об этом даже официальная статистика сообщает. Поэтому вполне вероятна такая милая картинка: частный сектор уже умер, а общественный еще не «перестроился», чтобы производить достаточное количество продовольствия. А цивилизованный мир, уважая наши соображения насчет продовольственной безопасности, пайки из натовских запасов не шлет. Каково?

Об этом можно почитать у Янки Брыля. Когда в Западную Беларусь пришли «вторые Советы», красноармейцы безмерно удивлялись тому, что амбары у здешних крестьян ломятся от хлеба. Не то что в российских колхозах, где от бескормицы и мыши не водятся.

Ах какое открытие делает Лукашенко, гордо заявляя: будем с хлебом! Да Всегда были, даже когда и президента-то не было. Вон, в соседней с нами Литве думают как освободить элеваторы от старого хлеба, чтобы принять новый. Не переработать ли на топливо для автомобилей. У нас же только и слышишь, как министр, бросив свои министерские дела, едет контролировать ход уборки. Что, ему в министерстве делать нечего? Тогда зачем он нам, такой министр?

И все это колхозное строительство, начавшись 60 лет назад как уголовное преступление, как узаконенный бандитизм, давно стало преступлением социальным. Ведь житья не дают, растрачивают впустую ресурсы будущего поколения. Это ли не преступление?

А они еще и гордятся, что не дали «развалить колхозы». Но если хлеб убирать некому, кроме солдат, это разве не развал?

Право слово, было бы намного легче психологически, если бы такое хозяйствование нам было навязано извне, каким-нибудь колониальным режимом. Так ведь нет, нашим и, что называется, всенародно избранным.



*Так и живем...*

Конечно, для надежды всегда есть место. От того, например, что повторение советского опыта требует неизмеримо больших усилий, чем это может позволить себе нынешняя Беларусь. А всякое несоответствие, известно, превращает трагедию в фарс, а эпос — в скверную пародию. Уже сегодня, вновь заболачиваются торфяники, до которых по причине безденежья не может дотянуться рука мелиоратора. Природа зализывает раны для будущего расцвета. Настанет такое время и для белорусского общества. Может быть настанет...

# Хадыка і Шарамет зноў перад судом

*(Пачатак на стар. 1)*

Выступ прадстаўніка супрацьлеглага боку быў надзвычай лапідарным. Галоўны спецыяліст упраўлення грамадскіх аб'яднанняў мініста С.Шляхто абмежаваўся ўсяго адным сказам: *«Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь абгрунтавана адмоўлена ў рэгістрацыі, і дадзеную адмову я падтрымліваю»*. І то праўда — чаго там доўга распінацца, марнаваць намаганні і час, вынік справы і без таго прадвызначаны.

Пракурор Ігар Давыдоўскі ў сваёй прамове не згадзіўся з тым, што *«статут асацыяцыі супярэчыць канстытуцыі»*, аднак угледзеў парушэнні Закона аб грамадскіх аб'яднаннях.

### Дзве прэтэнзіі

Рашэнне судовай калегіі пад старшынствам Валерыя Вышкевіча практычна цалкам супала з тэзісамі пракурора. Суд не палез у гушчар глабальнай палітычнай праблематыкі і не стаў вырашаць пытанне, ці ёсць у краіне палітычны пераслед. Да асацыяцыі вязняў рэжыму ўвогуле засталося дзве прэтэнзіі. Адна з іх тычыцца таго, што закон забараняе *«выкарыстанне асабістых імёнаў грамадзян»* (у дадзеным выпадку гаворка ідзе пра імя «Лукашэнка») без іх згоды. Сутнасць другой — у тым, што сярод заснавальнікаў асацыяцыі ёсць непаўналетні Вадзім Лабковіч.

З прававога пункту гледжання гэтыя прэтэнзіі не вытрымліваюць крытыкі. Што тычыцца «выкарыстання асабістага імя», дык вязні рэжыму ж і не называлі сваё аб'яднанне «асацыяцыя імя Лукашэнкі». А слова «лукашэнкаўскі» з'яўляецца зусім не ўласным імем, а вытворным прыметнікам. Закон таксама забараняе выкарыстоўваць у назвах аб'яднанняў слова «Беларусь» — але ніколі ні ў каго не ўзнікала прэтэнзіяў наконт вытворнага прыметніка «беларускі». Сітуацыя аналагічная — аднак у дадзеным выпадку Вярхоўны суд чамусьці вынайшаў іншы падыход.

Тое ж самае — з Вадзімам Лабковічам. Суд спаслаўся на артыкул закона, паводле якога ініцыятарамі стварэння аб'яднання павінны быць не менш за 10 паўналетніх грамадзян. Гэтая ўмова на самой справе палітвязнямі была выкананая. На прадмет жа таго, каб апроч гэтых грамадзян арганізацыю заснаваўлі і непаўналетнія, ніякіх забаронаў у законе няма.

З пункту ж гледжання здаровага сэнсу гэта выглядае яшчэ больш абсурдна, чым у прававым плане. Выходзіць, для таго, каб быць вязнем рэжыму, сядзець у турме, Лабковіч дастаткова дарослы — а вось сярод заснавальнікаў асацыяцыі такіх самых вязняў ён з прычыны юнацкага ўзросту быць не можа. Ці ж гэта не здзек?

Але што там казаць пра закон, роўна як і пра здаровы сэнс? Ясна, што ў нашых умовах арганізацыя з падобнай назваю апрыёры не можа быць афіцыйна зарэгістраваная. І рэч тут не ў фармальных падставах адмовы: не было б гэтых прычынаў — знайшліся б іншыя зачэпкі. *«Сам разгляд нашай справы пакажа, ці цалкам грамадства пранізане міязмамі гэтага рэжыму»*, — зазначыў у сваім выступе Ю.Хадыка. Не бяруся сцвярджаць наконт усяго грамадства — але ўсе галіны ўлады пранізаныя, натуральна, цалкам, — на тым рэжым і трымаецца. Рашэнне па справе асацыяцыі вязняў — проста чарговае таму пацверджанне.

### Чым Лукашэнка адрозніваецца ад Сталіна

Між іншым, у прамове пракурора была даволі цікавая фраза. Абвяргаючы аргументацыю пра падабенства лукашэнкаўскага рэжыму да сталінскага, пракурор сказаў: *«Лукашэнка быў абраны легітымна, яго законны тэрмін выканання абавязкаў яшчэ не скончыўся, і гэтым ён адрозніваецца ад Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна»*. Тут цяжка не пагадзіцца з пракурорам — хіба што толькі гэтым і адрозніваецца. Ну і яшчэ, трэба дадаць дзеля справядлівасці, усё ж і маштабамі палітычных рэпрэсіяў. Але ж у іншым (у метадыцы дзейнасці, у стаўленні да правоў і свабодаў, да дэмакратыі і закона, да палітычных апанентаў і любых формаў пратэсту) — падабенства відавочнае.

Тэарэтычна рашэнне калегіі можа адмяніць старшыня Вярхоўнага суда. Перад зваротам да яго вязні лукашэнкаўскага рэжыму будуць разглядаць розныя варыянты (у прыватнасці, яны збіраюцца атрымаць заключэнне навукоўцаў-філолагаў наконт таго, ці можна лічыць асабістым імем вытворны ад гэтага імя прыметнік). Але старшыня асацыяцыі Алесь Бондараў паведаміў нашай газеце, што аб'яднанне будзе дзейнічаць у любым выпадку, незалежна ад канчатковага вырашэння справы аб рэгістрацыі. Іншымі словамі, вязні лукашэнкаўскага рэжыму не ставяць сваю практычную дзейнасць у залежнасць ад таго, ці зарэгіструе іх той самы рэжым, які і зрабіў іх вязнямі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Нарву признают русским анклавом

**Правительство Эстонии готово признать пограничный город Нарву языковым русским анклавом и допустить для него послабления в области языковой политики.**

В конце минувшей недели министр по делам национальностей Эстонии Андра Вейдеманн выступила с программным докладом, в котором изложила принципиальные позиции правительства в сфере национальной политики.

Эстонские власти признали, что расположенный на границе с Россией город Нарва, более 90% населения в котором составляют неэстонцы, практически является иноязычным анклавом и к нему невозможно предъявлять обычные требования в области применения госязыка. О каких послаблениях идет речь, министр пока не уточнила. А.Вейдеманн, кроме того, отдельно подчеркнула, что Эстония не собирается обсуждать проблему официального двуязычия в стране.

**Александр СУЙТС**



*У мінулыя выхадныя па вуліцах і праспектах літоўскай сталіцы прайшло карнавальнае шэсце. Удзельнікі міжнароднага вулічнага фестывалю «Вільнюсскія дні-98» прайшліся па галоўнай вуліцы Вільні — праспекце Гедыміна. А ўвечары для віленцаў і ўдзельнікаў фестывалю быў наладжаны феерверк.*

## В Москву приедут чехи

20-21 августа Россию с визитом посетит делегация верхней палаты парламента Чехии — Сената, которую возглавит ее спикер Петер Питгарт. Делегация примет участие в мероприятиях, которые будут организованы в Москве в связи с 30-й годовщиной ввода войск Варшавского Договора в Чехословакию.

Факт ввода войск Варшавского Договора в Чехословакию ныне в Чехии воспринимается прежде всего как историческое событие. Питгарт подчеркнул, что «извлеченный из этого урока истории опыт должен стимулировать развитие демократии в регионе постсоциалистических стран, сотрудничества и добрососедских отношений между государствами Центральной и Восточной Европы».

*ИТАР-ТАСС*

## Новый космический проект

*Российские ученые запустят вторую Луну*

9 ноября этого года жители Канады смогут наблюдать в ночном небе сразу две Луны. Необычное зрелище появится благодаря российским ученым, которые планируют вывести на околоземную орбиту новый космический аппарат.

Аппарат представляет собой гигантское зеркало, отражающее солнечный свет. Ожидается, что по воспринимаемой с Земли величине оно будет равно примерно половине лунного диска, а по яркости превзойдет Луну минимум в пять раз. Зеркало сгорит, сделав 16 оборотов вокруг Земли за 24 часа.

Запуск нового аппарата — часть программы «Солнечная регата», конечная цель которой — одновременный вывод в космос нескольких сотен таких зеркал для освещения городов в арктических районах Земли во время полярной ночи.

## Вор на велосипеде

**Полиция Токио задержала на днях 68-летнего велосипедиста, подозреваемого в совершении огромного количества квартирных краж.**

По данным правоохранительных органов, подозреваемый Шигео Таки совершил не менее пяти тысяч ограблений при помощи собственного велосипеда. Таки, уроженец Токио, начиная с 1989 года во время прогулок на своем велосипеде высматривал наиболее подходящие пустующие дома. Там, в отсутствие хозяев, он забирал самое ценное — наличные, драгоценности, ценные бумаги, а также угонял автомобили, не забывая положить в багажник орудие кражи — «велик».

## Осторожно: норки!

**Жителям юго-восточной Англии советуют остерегаться норок, передает агентство *Reuter*.**

Защитники прав животных выпустили на свободу несколько тысяч норок, содержавшихся на меховой ферме в юго-восточной Англии, дабы спасти их от уготованной участи. Полиция же предупредила местное население о том, что норки голодные и представляют угрозу для животных и людей. Жителям советуют не выпускать своих домашних животных на улицу и по возможности отстреливать норок.

## Человек разумный гораздо моложе

**Международная группа ученых пришла к выводу, что люди научились использовать огонь не 500 тысяч лет назад, как считается в настоящее время, а гораздо позже.**

Исследовав вновь пещеру Чжоукоудянь, в которой 70 лет назад были обнаружены обгоревшие кости якобы убитых первобытным человеком зверей, антропологи заявили: эти животные, скорее всего, погибли во время лесного пожара. Впоследствии их останки были смыты в пещеру дождем. К такому выводу они пришли, не найдя в пещере каких-либо других следов пребывания человека.

Заключение антропологов, скорее всего, вынудит скорректировать и возраст человека разумного, ведь считается, что он появился именно после овладения людьми огнем.

### Так рождалась «Солидарность»

# Жаркое лето 1976-го

**Пожалуй, именно события 1976 года в Польше послужили своеобразным фундаментом для становления первого действительно независимого профсоюза в странах соцлагеря — польского профсоюза «Солидарность».**

### Как это было

Как обычно, поводом для очередных волнений послужило традиционное повышение цен на продукты питания и запутанная система компенсаций, предложенная правительством Польши.

Премьер-министр Петр Ярошевич объявил на сессии Сейма, что с воскресенья 27 июня будут повышены цены на продукты питания. На небольшую группу товаров цены снижались. Это снижение затрагивало лишь узкую группу товаров: хлеб и хлебобулочные изделия, некоторые виды круп, обезжиренное молоко, творог и т.д. В то время как цены остальных продуктов должны были повыситься весьма основательно.

Например, цены мясных и колбасных изделий возрастали в среднем на 80%, рыбы — примерно на столько же, масла и жирных сыров — более чем на 50%. Сильнее всего повышалась цена сахара — с 10,50 до 20 злотых. Это, в свою очередь, автоматически повышало цену всех кондитерских изделий.

Ответом на такое отношение властей к обществу стали акции протеста. В пятницу с утра начали бастовать промышленные предприятия по всей Польше. Хотя полный список бастовавших предприятий неизвестен, но протест не везде принимал более или менее организованные формы. Чаще всего этот протест выражался тем, что рабочие первой смены не начинали работу, а вместо этого собирались группами и обсуждали объявленное повышение, не выдвигая каких-либо определенных требований.

Во многих случаях забастовка охватывала не все предприятие, а только отдельные цеха. Дирекция зачастую не предпринимала никаких шагов, делая вид, что, собственно, ничего не происходит. Такое положение воцарилось на большинстве предприятий всей страны — производство остановилось. Но в силу того, что была прервана телефонная связь, никто не отдавал себе отчета ни в характере, ни в размахе происходящего. И забастовка не приобрела более организованных форм, а после того как премьер Петр Ярошевич объявил об отмене повышения цен — попросту угасла. Серьезные выступления прошли только в Плоцке, Радоме и Урсусе.

### Плоцк

На нефтехимическом комбинате забастовка началась сразу после прихода смены и охватила все предприятие. Было решено созвать митинг, в цехах приступили к выбору делегатов. Во время митинга, который начался около 10 часов утра, коллектив потребовал отмены повышения цен. После митинга часть рабочих отправилась к зданию воеводского комитета партии дожидаться ответа на выдвинутые требования. Демонстрация проходила, в основном, довольно мирно, если не считать нескольких выбитых в здании воеводского комитета окон.

Вечером, уже после того как было объявлено, что повышение цен отменяется, расходящуюся толпу атаковали милицейские части, присланные в город. Демонстранты рассеялись. Позднейшие аресты носили случайный характер, число арестованных не превысило 20-30 человек.

### Урсус

Забастовка началась с самого утра во всех цехах. Около 9 часов утра коллектив тракторного завода ушел с территории завода и отправился к зданию дирекции, добиваясь переговоров. Рабочие требовали прибытия представителя центральных властей, которому они собирались предъявить требование об отмене повышения цен. Дирекция отказалась передать требования рабочих. Представители дирекции вели себя вызывающе, и вследствие этого произошли столкновения, при которых досталось директору и первому секретарю заводского парткома.

Рабочие пытались вступить в контакт с властями, но оказалось, что вся телефонная связь Урсуса отрезана. Тогда было решено известить страну о забастовке, идущей на заводе «Урсус», заблокировав движение на проходящих поблизости железнодорожных линиях Варшава—Скерневице и Варшава—Лович.

Разделившись на две группы, рабочие заняли железнодорожные пути. Было остановлено движение пригородных электричек и поездов дальнего следования. Среди остановленных поездов оказался и скорый поезд Варшава—Париж.

В час окончания работы часть рабочих начала расходиться по домам — это могло привести к возобновлению движения поездов. Тогда оставшиеся рабочие разобрали рельсы на скерневицкой линии и в образовавшийся разрыв втолкнули электровоз остановленного поезда. На ловичской линии была сделана попытка перерезать рельсы ацетиленовой горелкой, но эта попытка не удалась.

В ходе забастовки были также задержаны два грузовика отдела снабжения, которые везли яйца и сахар. Их разгрузили, а продукты раздали населению.

В течение всего дня милиция ни во что не вмешивалась, а присылаемые из Варшавы подразделения держались в отдалении от демонстрантов. Все время только велось наблюдение с кружившего над толпой вертолета и фотографирование участников.

Как и в Плоцке, милицейское наступление началось после того, как премьер-министр Ярошевич объявил об отмене повышения цен. Толпу, собравшуюся на путях, атаковали с применением дымовых шашек и слезоточивого газа. От брошенной дымовой шашки загорелся и сгорел вагон-ресторан международного скорого поезда. За короткое время демонстрация была разогнана.

С этого момента на территории поселка Урсус милиция занялась задержанием, зачастую задерживая совершенно случайных людей. Задержания сопровождались избиениями. Задержанных отвозили сначала в участок в Урсусе, а затем развозили по разным районным отделениям милиции по всей Варшаве. В Урсусе, как и в Радоме, применялась форма организованного избиения задержанных — т.н. тропинки здоровья, однако здесь она не приобрела такого размаха, как в Радоме.

Арестовано было 200-300 человек — 30 предстало перед судом, а около 60 — перед коллегиями по делам о правонарушениях.

Большинство дел рассматривалось в судебных коллегиях и предъявлялось обвинение в нарушении общественного порядка из хулиганских побуждений. В большинстве случаев приговаривали к трем месяцам тюрьмы.

Судебные процессы проходили либо по обвинению в остановке железнодорожного движения (6 процессов), либо в связи с задержанием грузовиков отдела снабжения.

С 26 июня на заводе «Урсус» началось увольнение рабочих, которых объявили организаторами забастовки. Всего было уволено 180 человек, притом дирекция не останавливалась даже перед увольнением тех, кто был защищен от увольнения законом (например, беременных женщин). Поскольку в то время действовал запрет принимать на работу тех, кто был уволен в дисциплинарном порядке за участие в забастовке, они в течение нескольких месяцев оставались без работы.

### Радом

События в Радоме носили иной характер, нежели в Урсусе. В Радоме забастовка охватила весь город, поэтому в ней участвовали не только рабочие крупных промышленных предприятий, но все жители Радома, желавшие выразить все недовольство мероприятиями правительства.

Здесь следует отметить, что Радом 1976 года — город крайней нужды даже на фоне тогдашней Польши. Повышение цен ударяло по самым бедным, поэтому нет ничего удивительного, что именно в Радоме оно натолкнулось на особенно ярый протест.

Забастовка началась в цеху завода металлоизделий им. Генерала Вальтера. Покинув рабочие места, люди собрались на заводской площади, служившей местом заводских собраний и митингов. Увидев, что рабочие выходят из этого цеха, к ним присоединились рабочие других цехов, и начался митинг.

Рабочие требовали отмены повышения цен. Дирекция и некто, представившийся «товарищем из ЦК», призывали вернуться на работу и угрожали, что дальнейшее нарушение порядка может привести к кровопролитию. В конечном счете, дирекция пригласила на совещание представителей цехов. На этом совещании главный директор обещал, что ЦК выразит свое отношение к предъявленным требованиям к 14.30.

К рабочим завода им. Вальтера присоединились рабочие других предприятий, общее шествие направилось к зданию воеводского комитета партии. Собравшиеся требовали, чтобы к ним вышел первый секретарь комитета, и, опасаясь обмана, отказались направить делегацию, а первый секретарь Прокопяк не согласился встретиться со всеми собравшимися. Напряжение на площади росло. Разнесся слух, что первый секретарь бежал — тогда рабочие вошли в здание. Однако Прокопяк оказался на месте и обещал после двух часов дать ответ на их требования. Толпа успокоилась, но около двух часов оказалось, что первый секретарь и все сотрудники воеводского комитета все-таки сбежали. Тогда толпа приступила к погрому помещений комитета.

Дополнительными факторами, возбудившими толпу, оказались роскошь буфета и комфортность кабинетов. Люди выносили из буфета ветчину, окорока, охотничьи колбаски — продукты, которых жители Радома не видывали в магазинах уже долгое время. На мостовую полетели телевизоры, ковры и другие предметы роскоши, находившиеся в кабинетах.

В действие вступили особые милицейские части, прибывшие в Радом на самолетах с разных концов Польши. Против демонстрантов был применен слезоточивый газ, пустили в ход дымовые шашки и водометы. Воеводский комитет загорелся. Были подожжены и машины на автостоянке комитета. Были попытки забаррикадировать улицы, но, несмотря на это, милиции удалось разогнать демонстрантов в районе воеводского комитета. Группы отступающих демонстрантов прорвались к воеводскому УВД и управлению милиции. Они намеревались освободить арестованных за это время рабочих, но милиция отразила атаку.

Около семи часов вечера город был в полной власти воинских частей. Начались массовые аресты на улицах. Жертвой арестов оказывались совершенно случайные люди, их избивали и отправляли либо в воеводское, либо в городское управление милиции. Всю эту и несколько следующих ночей в Радоме царил беспредел.

Задержанных прогоняли сквозь строй — две шеренги милиционеров, вооруженных боевыми дубинками.

Эти действия уже не имели никакого рационального обоснования — они были продиктованы только примитивной жаждой мести со стороны власть имущих, оскорбленных тем, что рабочие посмели протестовать. Но следует помнить, что физическое насилие и произвол не только устрашают, — они еще и пробуждают ненависть, нередко скрытую.

**Кирилл КУДРЯВСКИЙ**

*(Продолжение следует)*

